# Кажуць: наша жыццё палепшылася...

Ёсць прымаўка: колькі не кажы «халва», у роце салодка не стане. Відаць Лукашэнка гэтага не ведае, бо кажа, што мы пачынаем жыць лепш. Асноўны аргумэнт такі: з верасня на 29 % павышаецца стаўка першага разраду і на 33 % мінімальная заработная плата.

Але ж мы ніякага паляпшэння не адчуваем. Чаму?

А як жа можна яго адчуць, калі:

— за час ад папярэдняга павышэння мінімалкі харчы і тавары, без якіх нам не пражыць, падаражэлі на 42 %. У бліжэйшы час чакаецца чарговае павышэнне цэнаў на мяса, хлеб, малако, іншыя прадукты. Каб «не ўзбуджаць народ», іх цану загадана падымаць па 2-3%;

— узрасла плата за жыллё. За стандартныя двух- і трохпакаёвыя кватэры прыйдзецца плаціць па 400 і 550 тыс. рублёў у месяц. Акрамя гэтага, хутка нам давядзецца непрыемна здзівіцца, на колькі падвысіцца плата за камунальныя паслугі;

— ня гледзячы на рост цэнаў, пенсіі з 1 верасня НЕ падвысіліся.

Чым глыбей мы будзем аналізаваць стан эканомікі пасля 3-х гадоў праўлення **Лукашэнкі,** тым больш мы будзем упэўнівацца, што словы пра паляпшэнне нашага жыцця — **ЧАРГОВАЯ ХЛУСЬНЯ** рэжыму:

— ужо 36% беларускіх сем'яў жывуць за рысай беднасці;

— знешняя запазычанасць Беларусі перавысіла 2 млрд. $;



— сярэдняя заработная плата, якая ў 1995-м годзе была каля 85 $, знізілася ў 1996-м годзе да 77 $, а зараз складае 68$.

Між тым, 7 год таму ў Беларусі былі найлепшыя стартавыя ўмовы для рэфармавання эканомікі ў параўнанні з суседнімі краінамі. Цяпер жа мы жывем значна горш. (Паглядзіце табліцу).

Людзі пачынаюць гадаць. **Чаму Лукашэнка так кепска кіруе Беларусcю:** ці з-за таго, что яму перашкаджаюць, ці **з-за таго, што ён неадукаваны дылетант?**

Што да першай прычыны, дык любому разумнаму чалавеку відавочна — ніхто Лукашэнку не перашкаджае. Што да другой прычыны — дык цалкам можа быць. Але мы жадаем адкрыць яшчэ адну таямніцу, — аказваецца, што чалавек, які «у адным пінжаку прыйшоў на прэзыдэнцкую пасаду», зараз адзін з самых багатых людзей Свету... Да гэтай пары ніхто не ведае, **куды знікаюць МІЛЬЯРДЫ $,** якія зарабляюцца на здачы ў арэнцу сотняў будынкаў, захопленых адміністрацыяй Лукашэнкі; на продажы былой савецкай зброі (напрыклад, Мігаў-29 і танкаў Т-72, якія былі прададзеныя ў Перу і Вугоршчыну за **250 мільёнаў $**); на кантрабандзе праз «празрыстыя» межы Беларусі (толькі адна махінацыя з фірмай «Торгэкспо» дала Лукашэнку больш **300 мільёнаў $**). Дарэчы, за намёк на гэта сядзіць Шарамет.

Што ж, адзін хоча прыйсці да ўлады, каб адрадзіць ды ўзбагаціць народ, а другі —каб гэты ж народ абабраць... Тры гады таму мы памыліліся. Зараз мусім цярпець.

**Да абрання новага прэзыдэнта Беларусі застаецца 1 год і 9 месяцаў.**

**Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне».**



## Што можна купіць за сярэднюю зарплату

| | Польшча | Літва | Беларусь |
|---|---|---|---|
| Мяса (кг) | 45 | 40 | 14 |
| Хлеб (боханы) | 725 | 398 | 445 |
| Бульба (кг) | 1450 | 991 | 400 |
| Малако (л) | 483 | 398 | 273 |
| Масла (кг) | 99 | 46 | 25 |
| Цукар (кг) | 457 | 248 | 90 |
| Яйкі (шт) | 3782 | 2385 | 869 |
| Гарэлка (л) | 27 | 25 | 18 |
| Бензін 95 (л) | 505 | 515 | 160 |

# За разуменнем — сумесныя дзеянні?

*Ужо не першы дзень працоўнае беларускае грамадства моцна напалоханае. Гаворка ідзе аб новым «шэдэўры» нашага кіраўніцтва: Асноўных палажэннях праекта дэкрэта «Аб неадкладных мерах па ўмацаванню працоўнай і вытворчай дысцыпліны». Найбольш часта згадваемае людзьмі параўнанне — гэта сталінскія законы ў працоўнай сферы.*

*ТМ валодае меркаваннямі аб гэтым праекце афіцыйных прафсаюзаў (ФПБ) і дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП). Знаёмім вас з некаторымі іхнімі заўвагамі і высновамі па згаданаму праекту дэкрэта.*

Перш за ўсё ў ацэнцы гэтага праекту з боку абодвух прафсаюзаў адзначым поўнае супадзенне поглядаў у наступным месцы:

«Отстранение профсоюзов от разработки и участия в принятии правил трудового распорядка существенно снижает права наёмного работника. Это тем более недопустимо, если учесть, что **Основные положения декрета предусматривают возможность увольнения работника по инициативе нанимателя без предварительного согласования с соответствующим профсоюзом или его уведомления, что предусмотрено ст. 35 КЗоТ Республики Беларусь».** (Выдзеленае тут і далей — ТМ).

***Далей па тэксту ФПБ:***

«Как следует из анализа содержания указанного документа, разработчиками проигнорирован комплексный подход к укреплению трудовой и исполнительной дисциплины. Её состояние, по нашему мнению, определяется не только наличием жестких санкций в самом широком диапазоне, но и многими другими факторами, в том числе уровнем организации труда, материально-технического снабжения производства, оплаты труда и жилищно-бытовых условий работников, соблюдением нанимателем требований трудового законодательства, коллективно-договорных обязательств и т.д.

Санкции, и достаточно серьёзные, вплоть до увольнения работника, уже имеются в нашем законодательстве... Нельзя согласиться с рядом основных положений проекта декрета, объективно противоречащих конституционным правам и сьободам граждан, концепции демократического социального правового государства, закреплённой в Основном законе Беларуси... При этом не оговаривается обязанность нанимателя каким-либо образом привлечь профсоюзы к процедуре разработки и утверждения правил... Вызывает возражения и вводимая, согласно проекту, система штрафов, в том числе и за действия, непосредственно не связанные с трудовыми, служебными обязанностями.

Порождает недоумение и предлагаемая норма, согласно которой работник, уволенный за наруше-



ние дисциплины, не подлежит премированию по новому месту работы в течение 12-и месяцев со дня совершения проступка. Вводится таким образом система мер, какие ещё до 1917-го года определялись как «волчий билет». Всё это, безмерно усиливая власть нанимателя, может привести к ухудшению социально-правового статуса граждан в сфере трудовых отношений, к резкому снижению уровня социальной защищённости трудящихся. Опасения такого рода усугубляются ещё более, поскольку в Основных положениях не подчёркивается, что невыполнение или ненадлежащее выполнение работником трудовых обязанностей по причинам, от него не зависящим (в силу недостаточной квалификации или трудоспособности, отсутствия должных условий труда и т.п.), не может рассматриваться как нарушение трудовой дисциплины.

**Ряд положений проекта сформулирован без учёта жизненных реалий, общепринятых юридических принципов».**

***Па тэксту БКДП:***

«...Для общественного обсуждения предложен не сам проект декрета, а его Основные положения. В юридических документах, особенно если речь идёт о законе (а декреты президента у нас имеют силу законов), нет положений основных и второстепенных — каждое слово такого документа несет важную смысловую нагрузку со всеми вытекающими последствиями. Создаётся впечатление, что он народа что-то скрывают, пытаясь в очередной раз с помощью очень своеобразного плебисцита получить его одобрение.

**... Можно констатировать — в предложенных на обсуждение основных положениях декрета полностью выхолощена роль профсоюза как защитника трудовых прав работников.**

Противоречит нормам международного права и Конституции РБ предложенный п. 2.5, предусматривающий наказание за нарушение правил внутреннего распорядка в виде перевода на другую, нижеоплачиваемую работу на срок до шести месяцев... Статья 37 Конституции РБ также запрещает применять принудительный труд, кроме работы или службы, определяемой приговором суда или в соответствии с Законом о чрезвычайном и военном положении... Исходя из смысла ст. 2.5 руководителю предприятия предоставлено право за нарушение правил внутреннего трудового распорядка понижать работнику разряд. На каком основании? Квалификационный разряд работнику присваивает квалификационная комиссия».

*Супадзенні ў меркаваннях аб праекце дэкрэту, як бачым, ёсць. Такога ж ўзаемаразумення б дзяржаўным і свабодным прафсаюзам і ў дзеяннях. У рэшце рэшт, справа ў іх сапраўды адна: абарона працоўных.*

# Поможем затянуть на себе супонь

Сегодня речь у нас идёт о жизнеспособности самого государства. Для многих очевиден процесс физического и нравственного вырождения народа. Совершенно ясно и то, что ***нерыночная*** экономика почти привела нас в тупик. Вероятно, этим вызван к жизни и проект президентского указа о дисциплине. Вот только никакими административными мерами делу тут не поможешь. Как и идеологическими заклинаниями и призывами.

Почти бесспорно, что приоритеты белорусского развития выбраны правильно: строительство, продовольствие, экспорт. Ну и что? Их ведь надо обеспечить, а не получается. И меньше всего потому, что низка трудовая и производственная дисциплина. Причины другие, они совсем в другой сфере. Нет конкуренции, а значит — нет борьбы за качество продукции. Не совершенны налоги, их платит у нас, к слову, тот, кто работает, а тот, кто ворует — не платит. Многовато чиновников, от которых зависит благополучие производителей, посредников и всей материально-производственной сферы. А что такое наш чиновник, мы знаем: он смотрит на реакцию начальства, а не на проблемы производства (не забывает при этом и себя).

Меры, которые обозначены в проекте указа, относятся к ***внеэкономическим*** методам повышения эффективности производства. Верх цинизма — предложение самим трудящимся их поддержать и даже усовершенствовать. Так не далеко и до «всенародной поддержки» декрета (из сталинской эпохи) о пятнадцати минутах опоздания и трёх колосках, поднятых на колзозном поле, за что полагалось наказание в виде лагерей. Недалеко ушли и авторы нашего проекта указа, нам предлагается затянуть супонь на хомутах, которые и без того не дают нам свободно двигаться и жить.

Приоритеты возрождения нации, оживления экономической жизни и утверждения новой нравственности должны быть совершенно иными. На первое место должна быть поставлена ***не собственно экономика***, которую нельзя поднять никакими призывами, увещеваниями и даже страхом, а — **общенациональная идея.** А законы государства (декреты, указы и т.д.) суть ни что иное, как идеологическое и организационное обеспечение этой идеи. Наоборот не получится, не бывает.

К сожалению, среди нашей сегодняшней политической и государственной элиты, стоящей у власти, не видно людей, которые были бы способны это понять и изменить ситуацию. Вот и обсуждаем очередной указ «о закручивании гаек». Усердие в этом деле приводит к тому, что гайки неожиданно срываются.

**В.СТАРОВОЙТОВ.**



